

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№96 (1113) 25 мая 1995 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 541000 экз. Кошт у розніцу — 300 руб.


## ФАКС

*ФАКТЫ*АРГУМЕНТЫ*КОММЕНТАРИИ*СОБЫТИЯ*

### Вкратце

***Военное командование чеченских формирований сообщило, что вечером во вторник, после предварительной 4-часовой артподготовки, федеральные войска при поддержке авиации предприняли 2 попытки прорыва на юге республики.***

Федеральные войска, потеряв несколько единиц бронетехники и до ста человек убитыми, отошли на прежние позиции.

❑

***Федеральные российские войска в Чечне вчера утром начали широкомасштабное наступление на позиции незаконных вооруженных формирований по всей линии противостояния с целью их вытеснения из предгорных районов республики.***

"Мы будем двигаться медленно и уверенно, стремясь сократить до минимума потери личного состава", — заявил командующий объединенной группировкой генерал-полковник Михаил Егоров.

❑

***Глава мусульман-исмаилитов мира Ага Хан IV, находящийся с официальным визитом в Таджикистане, проведет в Хороге встречи с представителями местных сил самообороны и представителями исмаилитской общины, в том числе и из Афганистана.***

❑

***Курс российского рубля на торгах Московской межбанковской валютной биржи 24 мая упал на 2 пункта по сравнению с торгами во вторник и составил 5041 рубль за доллар.***

### Крестьянская партия намерена бороться за своего кандидата

***Только одного кандидата во второй тур сумела провести Белорусская крестьянская партия — Вячеслава Герасименко, который баллотируется в Петрикове.***

Несмотря на то, что он лидирует в двойке лучших, серьезную конкуренцию журналисту составляет небезызвестный генерал Петр Чаус.

Как сказал в интервью корреспонденту РИД председатель БКП Евгений Лугин, который, кстати, выбыл из выборной гонки после первого тура, партия предпримет все возможное, чтобы помочь своему кандидату получить депутатский мандат и быть таким образом представленной в будущем парламенте.

**Юрий ЛЕШКЕВИЧ.**

### "Мы, белорусы Сибири..."

***В одном из крупнейших культурных и научных центров России — Новосибирске 3 июня откроется I съезд белорусов Сибири.***

Съезд проводит общественная организация "Белорусы Сибири", созданная год назад по инициативе научной и творческой интеллигенции Новосибирска и преследует цели сохранения и развития культурных связей белорусской диаспоры со своей этнической родиной. "Белорусы Сибири" выступают за расширение связей между нашими странами, а также за культивирование родного языка в семьях сибиряков-белорусов, изучение белорусской истории и культуры. В планах организации — создание в Сибири сети белорусских культурных центров.

**Ян ВЕРБА.**

### В США и Канаде знают Василя Быкова

***26 мая в Торонто начнет работу научная конференция литературоведов Канады и США, посвященная творчеству белорусского писателя Василя Быкова.***

Материалы конференции предполагается издать в Канаде отдельным сборником на английском языке.

**Ян КРЫГА.**

### Не стало белорусскоязычной прессы

***Приостановлен выпуск ведущих белорусскоязычных газет. Среди них — "Літаратура і мастацтва", "Культура", "Наша слова", "Голас Радзімы".***

Белорусский Дом печати отказался печатать газеты, так как у выпускающего их издательства "Полымя" на это нет денег, которые в свою очередь ему должны были поступить из госбюджета.

Как сообщил главный редактор "ЛіМа" Николай Гиль, ситуация тем более плачевна, что газеты перестали выходить именно во время проводимой подписной кампании. Ведь подписчики из-за нерегулярного выхода номеров могут решить не продлевать подписку на очередной срок.

**Александр КАЗАК.**

### Коррупцию скоро "узаконят"

***23 мая в конференц-зале гостиницы "Юбилейная" директор негосударственной телестудии "ТОП" Николай Гребенкин провел пресс-конференцию для журналистов, посвященную взрыву его машины 16 мая.***

Собравшиеся еще раз услышали версию пострадавшего о прямой связи происшедшего с недавним арестом директора Главной дирекции программ белорусского телевидения Бахтияра Бахтиярова (в этом деле Гребенкин проходит одним из главных свидетелей по обвинению последнего в вымогательстве взятки).

На пресс-конференции прозвучало также утверждение, что национальное телевидение полностью коррумпировано. Николай Гребенкин выразил уверенность, что лежащий на столе Президента указ о Департаменте связи после его подписания А.Лукашенко наконец-то пресечет коррупцию на корню.

**Павел ПРОТАСЕНЯ.**

### Почем валюта?

***С 24 мая 1995 года Национальным банком установлены курсы иностранных валют***

| | Единый курс |
|---|---|
| 1 австралийск. доллар | 8 271,43 |
| 1 австр. шиллинг | 1 136,93 |
| 1 фунт стерлингов | 18 113,09 |
| 10 бельг. франков | 3 887,76 |
| 1 немецкая марка | 7 997,22 |
| 1 голланд. гульден | 7 142,86 |
| 1 датская крона | 2 045,54 |
| 100 итальянск. лир | 679,27 |
| 1 канадск. доллар | 8 409,51 |
| 1 норвежск. крона | 1 794,63 |
| 1 доллар США | 11 500,00 |
| 1 финск. марка | 2 614,23 |
| 1 франц. франк | 2 255,34 |
| 1 шведск. крона | 1 556,16 |
| 1 швейцар. франк | 9 307,35 |
| 10 японских иен | 1 317,30 |
| 1 ЭКЮ | 14 766,31 |
| 10 испанск. песет | 913,79 |
| 10 греч. драхм | 495,16 |
| 1 ирландск. фунт | 18 447,22 |
| 1 исландск. крона | 176,52 |
| 1 кувейт. динар | 38 551,79 |
| 10 ливанск. фунтов | 70,73 |
| 10 португал. эскудо | 761,09 |
| 1 сингапур. доллар | 8 261,49 |
| 10 турецк. лир | 2,61 |
| 1 СДР | 17 714,66 |
| 1 эстонск. крона | 997,83 |
| 1 росс. рубль | 2,23 |
| 10 укр. карбованцев | 0,83 |
| 1 литовский лит | 2 875,00 |
| 1 латвийск. лат | 22 070,00 |
| 1 кыргызск. сом | 1 050,00 |
| 1 молдавск. лей | 2 520,00 |
| 1 казахст. тенге | 150,00 |
| 1 армянск. драм | 15,00 |
| 10 грузинск. купонов | 0,01 |
| 1 туркменск. манат | 150,00 |
| 1 азербайджан. манат | 1,50 |
| 1 узбекский сум | 45,00 |
| 1 таджикский рубль | 0,01 |

### Прийти, увидеть и купить... мебель

***С 30 мая по 3 июня в минском Дворце спорта будет работать Международная специализированная выставка "Мебель-95".***

Ее устроители — выставочное общество "Экспофорум", научно-производственное объединение "Минскпроектмебель", научно-производственная фирма "Капри", выставочная компания "Экспосервис".

В экспозиции будет представлена мебель для жилых квартир и загородных домов, для общественных и служебных помещений, а также отделочные и облицовочные материалы, средства по уходу за мебелью.

**Александр КАЗАК.**




Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, РИД.


Фотофакт



23 мая в столице Беларуси Минске распоряжением администрации Президента белорусский национальный герб "Погоня" снят с фасадов Дома правительства и здания резиденции Президента на Октябрьской площади (бывший ЦК компартии Беларуси).

**Фото Марии ЖИЛИНСКОЙ.**

## ЗВАРОТ

## Прэзідыума Вярхоўнага Савета да выбаршчыкаў

Дарагія суайчыннікі!

14 мая прайшоў першы тур выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь чарговага скліканння.

Дзякуючы вашаму актыўнаму ўдзелу, выбары адбыліся ў 235 акругах з 260. Выбрана 18 дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. У 216 акругах вызначыліся па два прэтэндэнты на дэпутацкі мандат, набраўшыя найбольшую колькасць галасоў. Канчатковыя вынікі вызначацца пасля другога тура галасавання.

Лічым неабходным нагадаць, што дзяржава не можа паўнацэнна існаваць і развівацца без заканадаўчай улады як адной з асноўных галін адзінай дзяржаўнай сістэмы. Для паспяховага ажыццяўлення рэформ, якія праводзяцца ў рэспубліцы, неабходна працягваць стварэнне новай заканадаўчай базы, удасканальваць раней прынятыя законы.

У сувязі з гэтым Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь звяртаецца да выбаршчыкаў краіны прыняць актыўны ўдзел у другім туры галасавання 28 мая 1995 года. Гэта дазволіць не толькі вызначыць ваш лёс і лёс вашых дзяцей, перспектывы развіцця Беларусі, але і зэканоміць грашовыя сродкі, якіх сёння, на жаль, так не хапае ўрачам, настаўнікам, студэнтам, інвалідам і пенсіянерам. Ад вас, паважаныя выбаршчыкі, залежыць, як будуць захоўвацца і абараняцца правы і свабоды грамадзян, стабільнасць у грамадстве.

Вярхоўны Савет XII склікання практычна спыніў сваю заканатворчую дзейнасць. Але калі 28 мая не адбудуцца выбары новага Вярхоўнага Савета, то згодна з артыкулам 91 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь павінен будзе прадоўжыць сваю дзейнасць цяперашні Вярхоўны Савет. На наш погляд, гэта выкліча цэлы шэраг складанасцей у заканатворчай дзейнасці і вырашэнні іншых дзяржаўных пытанняў.

Таму Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь спадзяецца, што кожны з вас сэрцам адчуе грамадзянскую адказнасць у выбары дастойнай кандыдатуры і такім чынам дапаможа сфарміраваць працаздольны Вярхоўны Савет наступнага склікання.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

23.05.95 г.

## Беларусь — Куба

***26—28 мая состоится официальный визит в Республику Беларусь министра иностранных дел Кубы Р.Робайны.***

В ходе визита пройдут переговоры с министром иностранных дел Республики Беларусь В.Сенько. Состоятся встречи Р.Робайны с министром сельского хозяйства и продовольствия В.Леоновым, министром внешних экономических связей М.Мариничем. Предполагается, что гость будет принят Президентом Республики Беларусь А.Лукашенко, премьер-министром М.Чигирем.

## Дагавор ратыфікаваны

Учора расійская Дзярждума прыняла федэральны закон "Аб ратыфікацыі Дагавора аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь".

Як вядома, гэты дакумент быў падпісаны кіраўнікамі абедзвюх дзяржаў у Мінску 21 лютага сёлета. 12 красавіка беларускія парламентарыі прагаласавалі за ратыфікацыю яго.

Адначасова з ратыфікацыяй расійскія парламентарыі звярнулі ўвагу ўрада Расійскай Федэрацыі на тое, што ён да гэтага часу марудзіць з прадстаўленнем на ратыфікацыю ў Дзярждуме Пагаднення аб мытным саюзе паміж рэспублікамі, Пагаднення паміж урадам Расійскай Федэрацыі, Цэнтральным банкам РФ і ўрадам Рэспублікі Беларусь, Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь аб мерах па забеспячэнню ўзаемнай канверсуемасці і стабілізацыі курсаў расійскага і беларускага рублёў. У прынятай пастанове Дзяржаўная дума Расіі прапанавала ўраду ўнесці гэтыя і іншыя дакументы, ратыфікаваныя беларускім бокам, у двухтыднёвы тэрмін.

Учора парламентарыі атрымалі ўрадавую інфармацыю аб выніках выканання бюджэту I квартала і ходзе выканання федэральнага закона "Аб федэральным бюджэце на 1995 г." ад старшыні расійскага ўрада В.Чарнамырдзіна.

Нягледзячы на аптымістычны настрой прэм'ера, дэпутаты далі адмоўную ацэнку дзейнасці кіраўнікоў дзяржавы, рэзка крытыкавалі праграму ўрада ў галіне эканомікі і сацыяльнай сферы. Дастаткова сказаць, што вынікі першага квартала сведчаць аб паглыбленні эканамічнага крызісу, няўхільнай тэндэнцыі спаду прамысловай вытворчасці, зніжэнні рэальных даходаў насельніцтва, пагрозе масавага беспрацоўя. Яшчэ больш рэзка ацанілі ўрадавую праграму эксперты Камітэта па эканамічнай палітыцы Дзярждумы. "Некампетэнтнасць і безадказнасць" — такое заключэнне зрабілі эксперты аб ходзе рэформ і развіцці расійскай эканомікі ў 1995 годзе.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ, уласны карэспандэнт "Народнай газеты" ў Маскве.**

Позірк

## Што з Вярхоўным Саветам?

**Іван ГЕРАСЮК**

Над Домам урада развяваецца крыху мадэрнізаваны рэферэндумам чырвона-зялёны сцяг БССР.

Пад гэты сцяг Вярхоўны Савет прыйшоў у 1990 годзе, з-пад яго ён і пойдзе. Пасля нядоўгага прабывання ў будынку былога ЦК КПБ вярнуўся на сваё месца і кабінет спікера парламента.

У фае правага крыла Дома ўрада нязвыкла пуста. Калі тут была прыёмная адміністрацыі Прэзідэнта, то людзі аж кішэлі зранку да вечара. Дзе знаходзіцца цяпер пакой прыёму грамадзян у Вярхоўным Савеце, не ведае нават паставы міліцыянер. Ды гэтага прыёму, відаць, ужо ніхто і не дабіваецца.

Калідоры парламента нагадваюць сабою ненаселены востраў. Шоргаюць пад нагамі шырокія стужкі паперы, разасланыя на падлозе, ліфты загароджаны вялізнымі лістамі кардону, на дзвярах многіх прыбіральняў вісяць таблічкі "Рамонт". Час ад часу рабочыя ў спяцоўках цягнуць нейкія цяжкі са скрынкамі. Зрэдку можна ўбачыць знаёмы дэпутацкі твар. Падобна на тое, што тут ранейшых парламентарыяў ужо ніхто не бярэ ў разлік (яны існуюць як бы самі па сабе), а рыхтуюцца да сустрэчы новых гаспадароў.

Аднак, як запэўнілі мяне ў адміністрацыйнай службе, кабінеты на ўсіх васьмі паверхах задзейнічаны, дэпутацкая праца ідзе. Між тым знайсці каго-небудзь з дэпутатаў амаль немагчыма. За выключэннем таблічак на дзвярах Мечыслава Грыба ды некалькіх камісій, ніякіх арыенціраў для пошуку няма. Літаральна ўсе дзверы на замку.

— Лепш за ўсё прыходзіць у дзень зарплаты, тады можна сустрэць многіх, — параілі мне ў бухгалтэрыі.

Калі дэпутаты атрымліваюць зарплату, значыць, нешта робяць. Але што?

Ніводзін з маіх калег, якіх удалося сустрэць, не пажадаў паведаміць выбаршчыкам, чым ён зараз займаецца. Таму задаволімся ананімнымі адказамі.

— Працягваю перадвыбарную барацьбу...

— Вось ездзілі на Міжпарламенцкую асамблею ў Санкт-Пецярбург, але які з гэтага толк, калі ведаеш, што заўтра ты непатрэбен. Настрой адпаведны...

— Усе дэмаралізаваны... Цені... Займаюцца кожны сваімі праблемамі...

— А як можна хоць штосьці рабіць? Мэблі няма, тэлефоны адключаны, машыны няма...

Не лепшы настрой і ў тэхнічных работнікаў:

— Вось, сядзім... Чакаем... Да 1 чэрвеня. А там Прэзідэнт нешта прыдумае...

— Чакаем скарачэння. Дэпутатаў будзе менш, калі яны яшчэ будуць...

Гэта сумненне небеспадстаўнае. Такое ўражанне, што пасля другога тура галасавання і палавіны парламента не набярэцца. Калі ж гэты Вярхоўны Савет будзе захоўваць свае паўнамоцтвы, то перамеле яшчэ нямала дзяржаўных грошай, аднак наўрад ці зробіць што-небудзь карыснае. І на чарговыя выбары мільярдаў няма.

Што ж рабіць з Вярхоўным Саветам, калі не збярэцца кворум для новага? Цывілізаванае выйсце, відаць, адно: сабрацца старым і выбраным новым дэпутатам, унесці папраўкі ў заканадаўства аб ратацыі Вярхоўнага Савета, пазбавіць паўнамоцтваў тых, у акругах якіх выбары далі вынік, хто перайшоў на працу ў "вертыкаль". Нельга, каб краіна нагадвала стол на дзвюх ножках. Вельмі няўстойлівая раўнавага.

## В Островце, похоже, не слишком симпатизируют БНФ

***В Центральную избирательную комиссию Беларуси продолжают поступать сообщения о нарушениях, допускавшихся некоторыми окружными избирательными комиссиями при подсчете голосов избирателей.***

Как стало известно агентству РИД, 20 мая на имя председателя ЦИК А.Абрамовича поступило заявление, подписанное членом инициативной группы кандидата в депутаты Верховного Совета от БНФ по 115-му Островецкому округу Н.Бовсюка. В заявлении, в частности, сообщается, что 15 мая по результатам первого тура выборов избирательная комиссия 115-го округа определила двух претендентов, вышедших во второй тур. Ими стали выдвиженец Аграрной партии И.Свирид и представитель БНФ Н.Бовсюк. Однако уже 18 мая мнение окружной избирательной комиссии изменилось, и вместо Н.Бовсюка во второй тур выборов был выдвинут начальник ГАИ Островецкого района В.Макаревич. Свое решение комиссия аргументировала тем, что при подсчете голосов избирателей якобы произошла путаница. Однако, по сообщению автора заявления И.Молодя, эта же комиссия в день выборов допустила еще ряд нарушений законодательства, выразившихся, в частности, в том, что подсчет голосов избирателей велся лишь тремя членами комиссии, в то время как доступ остальных членов окружной комиссии, равно как и наблюдателей, к протоколам участковых комиссий был ограничен. Данные обстоятельства, по мнению автора заявления, свидетельствуют о том, что результаты голосования в Островецком избирательном округе могли быть сфальсифицированы.

**Александр ПАТУТИН.**

ГОРЯЧАЯ ТЕМА

## О политическом объединении речи быть не может?

**Семен ЛУКАШУК**

Референдум, прошедший в Беларуси, вызвал широкий резонанс во многих государствах СНГ. Последовала и конкретная реакция: Госдума России поручила Комитету по законодательству и судебно-правовой реформе подготовить проект закона о постановке на референдум вопроса о создании единой федерации России и Беларуси.

Как известно, в белорусском референдуме речь о политическом объединении двух государств не шла. Поэтому мы попросили некоторых государственных и политических деятелей нашей страны прокомментировать инициативу депутатов Госдумы России.

**Александр САЗОНОВ,**

**член президентского совета:**

— Я, честно говоря, не в курсе заявления Госдумы России. Я не политик, я занимаюсь экономикой. Но, в принципе, каждый может заявлять все, что хочет. Главное, что у нас существует курс на экономическую интеграцию, имеется пакет двусторонних договоров, которые подписаны нашими государствами. В этом направлении мы и должны работать. А о политическом объединении и речи быть не может.

**Юры ХАДЫКА,**

**намеснік старшыні БНФ:**

— Я ацаніў бы ініцыятыву Дзярждумы Расіі як вельмі разумную. Чаму? Я магу прывесці вельмі цікавыя лічбы, якія фігуруюць у цэнтральным еўрапейскім эканамічным аглядзе свабодных рынкавых адносін. У мінулым годзе спад вытворчасці ў Беларусі быў 19%, у Расіі — 15%. Інфляцыя ў Беларусі — 3.500%, у Расіі — 310%. У Беларусі прыватызавана 3% прадпрыемстваў, у Расіі — 40. Але не гэта самае цікавае. Нягледзячы на значна горшыя паказчыкі, замежныя эканамісты адзначаюць, што рэальны гадавы валавы прадукт на 10 мільёнаў беларусаў складаў 20 мільярдаў долараў, а ў Расіі на 148,6 мільёна жыхароў гадавы валавы прадукт — 160,3 мільярда долараў. Гэта значыць, што Беларусь — зусім не бедная краіна. І зусім не дзіўна, што яе хочуць далучыць да Расіі.

Расіяне цудоўна ведаюць, хто купіць нашы прадпрыемствы, калі аб'яднанне адбудзецца.

**Ярослав НЕХАЙ, генеральный директор АО "Белинтурист", член партии ВЕС:**

— Насколько я знаю, с инициативой о референдуме выступил председатель партии "Российский общенародный союз" Сергей Бабурин. Лично я к этому политику симпатий не имею. Но если говорить об отношениях с Россией, то мы, благодаря своей профессиональной деятельности, с Россией не порывали никогда. Мы всегда выступали за более тесное сотрудничество. Поэтому и была создана ассоциация туристских фирм стран СНГ, поэтому и теперь мы предлагаем иностранным туристам одновременно Беларусь и Россию. Но все это — интеграция экономическая, о политическом объединении мне говорить не хотелось бы...

## "Если не знаешь, к какой гавани плыть, любой ветер не будет попутным..."

**Накануне минской встречи глав государств и глав правительств стран Содружества исполнительный секретарь СНГ Иван Коротченя ответил на вопросы корреспондентов "Народной газеты"**

**— Уже четвертый год существует Содружество Независимых Государств, а в центре Минска прописалась его штаб-квартира. Скажите, Иван Михайлович, что представляет собой СНГ сегодня?**

— Аналитики и политологи, оценивая те или иные шаги, предпринимаемые Содружеством, задаются вопросом: "А что было бы, если бы?.." И вопрос этот правомерен, ибо при оценке роли СНГ наряду с политическими, экономическими и юридическими факторами обязательно присутствует фактор психологический. И его присутствие особенно остро ощущаешь, когда речь заходит о "разводе" республик бывшего Союза. Если сегодня мысленно вернуться в Беловежье и вспомнить сам процесс разъединения республик, то я усматриваю заслугу Содружества прежде всего в том, что тот непростой процесс суверенизации новых государств протекал не на поле брани, а за столом переговоров и нам удалось за счет взаимных уступок разделить собственность бывшего Союза ССР, спокойно разобраться с границами, с банковскими активами и пассивами, а самое главное — мы смогли мирным путем разделить огромную армию, избежав "югославского варианта". А что касается трудностей переходного периода, а затем и становления, то тут, пожалуй, действует принцип: все новое — это забытое старое...

**— Что Вы имеете в виду?**

— Я имею в виду ситуацию послевоенного времени, когда в муках рождался "ребенок" по имени ООН. Скептики тех, сороковых, годов, предрекали весьма мрачную перспективу объединению наций в мировое сообщество. В этот же ряд я бы поставил и Европейское сообщество, и его нелегкий, скажем, даже тернистый путь длиной в три десятка лет к общему рынку. **— А теперь, Иван Михайлович, самое время поговорить об архисложной проблеме платежей, вернее, неплатежей на всем экономическом пространстве СНГ.**

— Да, такая проблема есть. Скажу больше — это проблема проблем. И, к сожалению, появилась она на свет с рождением Содружества. Именно на стадии развала единого народно-хозяйственного комплекса Союза родилось страшное экономическое бедствие под названием "неплатежи". Особенно больших размеров оно достигло тогда, когда в суверенных государствах начали вводить национальные валюты: кто — тенге, кто — сом, кто — карбованец, кто — "зайчик"... А нестыковка этих валют породила сначала сделки бартерные по принципу: я тебе, положим, трактор, ты мне — хлопок. Иного выхода тогда просто не было. Затем бартерные сделки потихоньку начали подменять расчетами клиринговыми. Опять же: я даю тебе определенное количество товара, который мы оцениваем, допустим, в тенге, ты мне в обмен даешь товар, оцениваемый уже в белорусских "зайчиках", а за эквивалент берется или российский рубль, или доллар.

Но к этому времени той железной дисциплины во взаиморасчетах, которая существовала при советском плановом хозяйстве, уже не было. В результате огромные суммы неплатежей "висят" между небом и землей по сию пору... Кстати, именно Беларусь внесла в повестку дня предстоящего заседания Совета глав правительств СНГ вопрос "Об урегулировании межгосударственных расчетов по результатам торгово-экономических отношений государств — участников Содружества Независимых Государств за 1992—1993 годы".

**— Но ведь на календаре уже, можно считать, середина девяносто пятого года?**

— Как говорится, лучше позже, чем никогда... И уже сам факт, что вопрос о межгосударственных расчетах значится в повестке дня минского саммита и будет предпринята еще одна попытка выработать правовую основу торгово-экономических отношений стран Содружества, свидетельствует о прогрессивной функции, которую выполняют Совет глав государств и Совет глав правительств.

(Оканчание на 3-й стр.)

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

СИТУАЦИЯ

## Чей электросчетчик?

У меня ночью на лестничной площадке украли электросчетчик. Как теперь говорят даже в милиции, не я первая, не я последняя. Проблема в том, что квартира у меня кооперативная. Если счетчик украдут в государственной квартире, то ответственность несет домоуправление, а если в кооперативной, то покупай счетчик сам. Такое ощущение, что я приехала из Америки и как будто и не проработали мы с мужем по 30 лет на государственном предприятии, и государственный бюджет я не финансировала, и налоги у меня брали не так, как у всех остальных граждан, получивших государственные квартиры. Теперь я со стороны энергосбыта и милиции только и слышу, что обязана сама купить электросчетчик, сама обязана навесить замок на тот щиток с электросчетчиками, который находится на лестничной площадке, а иначе за бесконтрольное расходование электроэнергии буду платить большой штраф. В общем, я все должна и все обязана. А я хочу у вас спросить: имею ли я какие-нибудь права? Если электросчетчик считается моим имуществом, то я никого не просила выносить мое имущество за пределы моей квартиры. А если кто-то давал указания выносить электросчетчики за пределы квартир, то он должен и обеспечить их сохранность.

Конкретные вопросы:

1) Кто должен покупать счетчик?

2) Имею ли я право потребовать, чтобы счетчик мне поставили в квартиру, если мне счетчик придется покупать за свои деньги?

**Ольга КЛИМУК.**

*г.Брест.*

## “Прэстыжны” тупік

Некалі, яшчэ ў снежні 1993 года, Мінскі гарвыканкам прыняў адно цікавае рашэнне. Каб папоўніць гарадскую казну, была ўведзена надбаўка да стаўкі арэнднай платы за здачу нежылых памяшканняў, размешчаных у найбольш зручных месцах. Здавалася б, вельмі своечасовае і правільнае рашэнне. Чаму, напрыклад, і не ўзяць лішніх, хоць яны ніколі не лішнія, 20 працэнтаў з таго ж універмага “Беларусь”, размешчанага на скрыжаванні шляхоў і дарог з некалькіх так званых спальных мікраraёнаў? Патэнцыяльных пакупнікоў там процьма. Не параўнацца ж з “Беларуссю” заштатнаму прамтаварнаму магазіну па вуліцы Цнянскай.

Але пад адзін грабянец у названым месцы “прычасалі” і іншыя гандлёвыя кропкі. І калі можна пагадзіцца з тым, што надбаўку бяруць з магазінаў, размешчаных уздоўж Партызанскага праспекта альбо на прылягаючых вуліцах, метраў хаця б за 300—400 ад праспекта, то павелічэнне арэнды магазіну № 11 Заводскага АРПК па вуліцы Жылуновіча выклікае здзіўленне.

Па-першае, стаіць ён у тупіку, амаль за кіламетр ад цэнтральнай магістралі. А па-другое, на шляху да гэтай гандлёвай кропкі ёсць ужо аднапрофільны садова-агародніннны магазін, і большасць патэнцыяльных пакупнікоў не даходзіць у “прэстыжны” тупік. Грошы, і немалыя, за арэнду прыходзіцца пераплачваць, бо раённыя ўлады на просьбы перагледзець рашэнне катэгарычна адмаўляюць.

Нехта з чытачоў, пазнаёміўшыся з публікацыяй, можа запярэчыць газеце: маўляў, гандляры выцерпяць і не такі груз падаткаў. Магчыма, яно і так. Але ж у прававой дзяржаве ва ўсіх суб'ектаў гаспадарання магчымасці для работы павінны быць роўныя. І справа не ў канкрэтным магазіне, хоць і ў ім таксама. У нявыгадным становішчы сёння апынуліся дзесяткі гандлёвых прадпрыемстваў.

**Адам СЯМЁНАЎ.**

Інтэрв'ю ў нумар

# “Я збіраўся пакінуць пракуратуру...”

**З выконваючым абавязкі Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Васілём Сцяпанавічам КАПІТАНАМ гутарыць аглядальнік “Народнай газеты” Іван ГЕРАСЮК**

**— Перш за ўсё віншую Вас, Васіль Сцяпанавіч, з прызначэннем на гэту адказную пасаду і хачу спытаць: ці чакалі Вы такога павароту падзей?**

— Дзякуй за віншаванне. Што ж датычыць прапановы ўзначаліць Пракуратуру рэспублікі, то яна застала мяне знянацку. Працуючы начальнікам арганізацыйна-метадычнага ўпраўлення, менавіта ў гэты момант я абдумваў рашэнне назаўсёды пакінуць органы пракуратуры. Вельмі розніліся мае падыходы да вырашэння праблем, арганізацыі работы з тым, як яна вялася.

**— А можа, гэта быў працяг ранейшага? Памятаецца, калі Вы ўзначальвалі следчае ўпраўленне і выступілі ў “Народнай газеце” з даволі рэзкім артыкулам, начальству не спадабалася Ваша самастойнасць, і Вас “адсунулі” са следства на арганізацыйна-метадычную работу, хоць Вы менавіта следчы-практык.**

— Мяркую, што я не выключэнне. Высокапрафесійных работнікаў са сваёй цвёрдай думкай у нас не вельмі шанавалі. Толькі з пачатку гэтага года звольніліся чатыры начальнікі аддзелаў, як кажуць, у самым росквіце сіл. Вельмі задаволены, што цяпер яны зноў пажадалі вярнуцца да ранейшай працы і прынеслі ўжо мне заявы.

**— Коратка пра Ваш працоўны шлях.**

— Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Ляхавічы Драгічынскага раёна. Там скончыў сярэднюю школу. Служыў у арміі спачатку пад Барысавам, а пасля ў Чэхаславакіі. Пасля арміі закончыў Белдзяржуніверсітэт. Пачынаў следчым у Пінску, пасля перавялі ў Пружанскі раён. Потым працаваў старшым следчым і начальнікам следчай часці ў Брэсцкай абласной пракуратуры, узначальваў Кобрынскую міжрайпракуратуру, быў намеснікам пракурора Брэсцкай вобласці. У Мінск пераехаў на работу ў якасці першага намесніка начальніка следчага ўпраўлення Пракуратуры рэспублікі, потым стаў на чале гэтага ўпраўлення. Як ведаеце, мяне перавялі на арганізацыйна-метадычнае ўпраўленне, дзе і застала мяне прапанова Прэзідэнта.

**— Сёння пракуратуру нельга назваць безадказна дзеючым праваахоўным органам. Вельмі шмат было страчана апошнім часам...**

— Сапраўды, шмат кваліфікаваных кадраў мы страцілі. Нізкім быў узровень матэрыяльнага забеспячэння ў параўнанні з іншымі структурамі. Аднак я ўпэўнены, што “баяздольнасць” органаў пракуратуры можна аднавіць у кароткі тэрмін. Я спадзяюся, што мне ўдасца сфарміраваць штат работнікаў ва ўзросце ад 30 да 50 гадоў. У нас жа цяпер шмат пенсіянераў, асабліва ў апараце. Таму задача нумар адзін — кадры, якія могуць і хочуць працаваць, якія маюць для гэтага сілы, здольнасці і веды.

**— І ўсё ж ці не збіраецеся Вы правесці рэарганізацыю апарату і пазбавіцца ад тых, хто, скажам, не зусім добра ставіўся да Вас асабіста?**

— Рэарганізацыя будзе праводзіцца толькі з адной мэтай — палепшыць работу. Галоўныя патрабаванні да падначаленых — добрасумленныя адносіны да працы, ініцыятыўнасць і дастойныя паводзіны ў асабістым жыцці. Ніякіх нядобразычліўцаў у мяне няма, бо з усімі я падтрымліваў карэктныя дзелавыя адносіны.

**— Як сустрэлі калегі Ваша прызначэнне?**

— На сходзе сустрэлі апладысментамі. Але тое, што звольненыя раней прафесіяналы жадаюць вярнуцца, мне здаецца, гаворыць само за сябе.

**— Вернуцца, зразумела, не ўсе. Ці ў стане пракуратура ў межах існуючага штатнага раскладу спраўляцца з пастаўленымі перад ёй задачамі?**

— Так, сапраўды, наш штатны расклад вызначаўся яшчэ ў 60-я гады. Тады за год рэгістравалася 26—27 тысяч злачынстваў, а летась — 126 тысяч. Змянілася сітуацыя. У раёнах цяпер па 3—4 суддзі, а пракурор толькі адзін. Ён павінен прысутнічаць на працэсах, даваць санкцыі, выносіць пратэсты. Ці можа ён гэта рабіць без перанапружання? Непазбежна давядзецца ставіць перад дзяржаўнымі органамі пытанне аб ліквідацыі гэтага дысбалансу. Сёння раённая пракуратура — усяго тры чалавекі. Пракурор, яго памочнік і следчы. Як можна ў такой сітуацыі ўсеахопна сачыць за выкананнем законаў?

**— Ну, напрыклад, Вы падабралі сабе неабходную колькасць работнікаў. Што далей?**

— Далей трэба пераходзіць да засяроджання на асноўнай функцыі пракуратуры — нагляду за захаваннем законнасці. Прычым мы павінны прымаць удзел у распрацоўцы законаў. Возьмем толькі адзін аспект — эканамічнае заканадаўства. Колькі там “белых плям” і “чорных дзірак”! І таму наша сістэма спрацоўвае цяпер з вялікім спазненнем. Я лічу, што мы адразу павінны ўвесці ў практыку работы так званае аператыўнае суправаджэнне законаў. Зразумела, законы, тым больш пры нашым Вярхоўным Савеце, не могуць быць бездакорна распрацаванымі. Таму мы адразу мяркуем адсочваць, як яны працуюць, дзе і што дазваляе закон абыходзіць або трактаваць яго на чыюсьці карысць. Праз 3—4 месяцы мы можам уносіць канкрэтныя прапановы па змене асобных палажэнняў. Калі б гэта рабілася раней, не сумняваюся, што і пры прыватызацыі, і пры выдзяленні банкаўскіх крэдытаў не было б столькі злоўжыванняў, якія засталіся беспакаранымі.

**— А што Вы збіраецеся рабіць з недатыкальнымі дэпутатамі, якія здзейснілі ўжо добрую сотню злачынстваў і гуляюць на волі. Рэдка калі Саветы даюць згоду на прыцягненне да адказнасці дэпутатаў...**

— Трэба будзе ўваходзіць з прапановамі ў Вярхоўны Савет, хоць у стары...

**— Стары іх не прыме. Спрабавалі...**

— Тады, можа, новы...

**— Але ж у законе недатыкальнасць прадугледжана толькі ў сувязі з выкананнем дэпутацкіх абавязкаў. Тым не менш справы ў суд па хабару, бойках і г.д. пракуроры ўсё роўна не перадаюць, хоць закон на іх баку.**

— Усё не так проста. Суды маюць іншы падыход. Недатыкальныя — і ўсё. Разбярыся, звязаны той або іншы ўчынак з дэпутацкай дзейнасцю ці не? Трэба, каб тлумачэнне на гэты конт даў Вярхоўны Савет і пленум Вярхоўнага суда, калі не ўдасца ўдакладніць закон.

**— Няўжо Вы верыце ў тое, што новы Вярхоўны Савет будзе кіравацца інтарэсамі дзяржавы, а не сваімі карпаратыўнымі — аграрнымі, дырэктарскімі і г.д.? Вашы прапановы могуць проста праігнараваць.**

— На жаль, карпаратыўныя інтарэсы сапраўды пераважваюць у рашэннях дэпутатаў. Перакананы, што так і будзе, калі дэпутат будзе адначасова сядзець на двух крэслах. Парламент павінен быць выключна прафесіянальным, чалавек павінен займацца чымсьці адным. Тады дзяржаўныя дзеячы і пачнуць прымаць рашэнні ў інтарэсах усёй дзяржавы, а не нейкай сацыяльнай групы.

**— А што Вы будзеце рабіць, калі зноў запрацуе Вярхоўны Савет і ў раздзеле “Рознае” штодня будзе гучаць па дзесятку разоў: “Генеральнаму пракурору... Дэпутацкі запыт...” З любой нагоды. Нехта некага пакрыўдзіў у выбарчай акрузе, некага звольнілі з работы нібыта незаконна, некаму не выдзелілі кватэру...**

— І тут трэба наводзіць парадак у заканадаўстве. Дзесяткаў спецыяльных пракурораў не хопіць, каб з усімі гэтымі запытамі дасканальна разабрацца. Неабходна ў законе дакладна акрэсліць, па якіх пытаннях запыты дэпутатаў могуць быць адрасаваны Генеральнаму пракурору, а па якіх — не.

**— У вашай сістэме фактычна аўтаномна існуюць падсістэмы — ваенная і транспартная пракуратуры. Як Вы да гэтага ставіцеся?**

— Я лічу, што пракуратура паўсюдна павінна дзейнічаць па тэрытарыяльнаму прынцыпу. Законы адны па ўсёй краіне, значыць, за іх выкананнем усюды павінен назіраць адзіны орган — тэрытарыяльная пракуратура.

**— Тым больш што і ў ваенных, і ў транспартных пракурораў, як бы мы таго не хацелі, існуе ведамасная і часам не бескарыслівая “інтэграцыя”.**

— Магчыма. Гэта можа быць нейкае матэрыяльнае заахвочванне ці якая-небудзь паблажка, паслуга. Таму я прыхільнік таго, каб хоць частка вернутых у бюджэт грошай нашымі работнікамі з бюджэту ж цэнтралізавана выдзялялася на матэрыяльнае заахвочванне. Тады і знікне залежнасць работнікаў пракуратуры ад некаторых ведамстваў.

**— Вось у пракуратуры ёсць следчыя, у Міністэрстве ўнутраных спраў — таксама, у КДБ — свае следчыя і г.д. Ці не лепш было б мець нейкі адзін незалежны следчы камітэт? Выявіла міліцыя злачынства — перадала туды, знайшоў падатковы інспектар нейкія злоўжыванні — матэрыялы ў следчы камітэт. Больш было б часу займацца сваёй непасрэднай справай.**

— Я не праціўнік такой ідэі, але, відаць, на дадзеным этапе да такой рэарганізацыі следства мы яшчэ не гатовы. Незалежны следчы камітэт дазволіў бы пазбегнуць ведамаснага ціску, што часам здараецца цяпер.

**— Закончым са справамі. Раскажыце пра сям'ю.**

— У мяне ёсць жонка, двое дзяцей. Дачцы 15 гадоў, а сыну — 12. У вёсцы жыве маці. Бацька памёр.

**— Як збіраецеся правесці адпачынак?**

— Як толькі пераканаюся, што працаваць пачалі надзейна, са спакойнай душой паеду адпачыць. Паеду ў вёску, буду касіць сена (маці яшчэ трымае кароўку), збіраць грыбы, лавіць рыбу, гуляць з дзецьмі. Да таго ж цесць і цешча жывуць побач. Вакол родныя людзі. Хіба можа быць лепшы адпачынак?

**— Ад імя чытачоў “Народнай газеты” жадаю Вам поспехаў у ахове законнасці, а значыць, і ўсіх нас.**

ВЫ ПРОСИЛИ РАССКАЗАТЬ

## Билеты не подорожают в течение года. Железно

***С 28 мая поезда пойдут по летнему расписанию. Директор транспортно-туристического государственного предприятия “Дортур” Белорусской железной дороги В.А.Янковенко рассказывает нашему корреспонденту о новом сезоне.***

**— Какие изменения ждут пассажиров летом?**

— Практически в два раза больше пассажиров смогут уехать из Минска в Софию. Планируется также, что из Беларуси откроется дорога до Стамбула, правда, с пересадкой на Украине.

**— Куда из белорусской столицы можно уехать еще?**

— У нас с российским железнодорожным агентством подписан договор. Так что билеты можно заказать куда угодно. Кроме того, в российских поездах до Берлина, Праги, Варшавы, Вены, Белостока и других нам предоставляются отдельные вагоны, которые формируются в Беларуси. Налаживается, кстати, и собственное железнодорожное движение. Уже два года ходит наш вагон Минск—Будапешт.

**— Подорожает ли проезд?**

— Валютная часть, наоборот, подешевеет. Так, например, если прежде до Варшавы билет стоил 17—19 долларов, то теперь — 14. Убрали мы к тому же комиссионные сборы. Цена, которая устанавливается сейчас, будет действовать год. Ведь она привязывается к швейцарскому франку. Возрастет лишь, предполагается, с 1 июля на 26 процентов стоимость проезда до Румынии. Но это уже от нас не зависит.

**— Назовите, какие существуют скидки на железной дороге? Значительны ли они?**

— Они довольно солидные. Только половину билетной стоимости платят дети до 12 лет, а чернобыльцы — до 16 лет. Почти в два раза дешевле обойдется поездка группы, например, в Софию и обратно. С этого лета предусмотрены скидки путешествующей семье.

**— Что нового в туризме?**

— Основное направление — Болгария. Нам предоставили гостиницы в таких курортных местах, как Золотые пески, Балчик. В Каварне (тихой бухте Черного моря) размещаем отдыхающих не только в гостиничных номерах, но и на виллах, расположенных в сотне метров от пляжа. Добавлю, работаем мы, что называется, напрямую. Так что в ценах никаких посреднических накруток нет. Кроме того, отправку и возвращение гарантируем. Ведь мы предприятие железной дороги. И еще — предоставляем путевки на Кипр и в Турцию. Правда, доставка туда уже самолетом.

**— И кому по карману болгарский загар?**

— Рассчитываем на людей не очень высокого достатка. Средняя стоимость путевки порядка 248 долларов. Сюда входит питание, пропуск на пляж, сероводородный бассейн, пикник, туристические поездки в Турцию и многое другое.

**— Где самый дешевый отдых в Болгарии?**

— В курортном местечке Каварна. Там все пока в пять—десять раз дешевле, чем на тех же Золотых песках.

**— И последнее. Можно ли у вас для загранпоездки оформить ваучер?**

— Да, оформляем ваучеры на Польшу, Венгрию и Болгарию. Вообще одна из основных наших задач в том, чтобы человек, решивший воспользоваться услугами Белорусской железной дороги, мог получить все — от билета до номера в гостинице.

Усміхнёмся з мастаком

А НАШ ДЕПУТАТ НАС НЕ ЗАБЫВАЕТ: ВОТ КАЖДОМУ ИЗБИРАТЕЛЮ ПО ШАПКЕ ПРИСЛАЛ...

**Малюнкі Алега ПАПОВА.**

Крымінал

## Пара б і меру знаць

Калі сабраць разам усё спіртное, затрыманае ў гэтым годзе беларускімі пагранічнікамі пры спробе незаконнай перавозкі праз граніцу, а затрымана было ні многа ні мала — 270 тон, вялікая атрымаецца п'янка. Аднак пагранічнікаў такі варыянт зусім не радуе. Таму што менавіта кантрабандныя лікёра-гарэлачныя вырабы падкідваюць ім нямала работы.

У асноўным спіртное вязуць невялікімі партыямі. Аднак бывае і па-іншаму. Напрыклад, у сакавіку на смаргонскім участку граніцы была затрымана вельмі буйная партыя — 89 бочак са спіртам. У красавіку ж смаргонскія пагранічнікі вызначыліся яшчэ больш, затрымаўшы 29 тон каньяку.

Агульны кошт затрыманага сёлета на граніцы спіртнога складае прыкладна паўмільярда рублёў.

**Белінфарм.**

Роздум з нагоды

## “Лапша на вушы” зноў застаецца самым папулярным пачастункам для выбаршчыкаў?

Такім чынам, 14 мая большая частка беларускіх грамадзян зрабіла свой выбар пры галасаванні за кандыдатаў у дэпутаты новага Вярхоўнага Савета. Як ні прыкра, але ў выніку, на мой погляд, “па-за гульнёй” апынулася нямала перспектыўных палітыкаў.

Прычын таму адшукаць можна многа, рызыкну адзначыць толькі некалькі з іх. У першую чаргу кідалася ў вочы няроўнасць умоў, у якіх апынуліся кандыдаты, нягледзячы на вядомы прэзідэнцкі ўказ. Нават дылетанту бачна было, што асобныя дзеячы з тых, хто прайшоў у другі тур, патрацілі на правядзенне перадвыбарнай кампаніі намнога больш за “афіцыйныя” 600 тысяч рублёў ці ўдала скарысталі свае “нефармальныя” сувязі. Аб гэтым красамоўна сведчаць шыкоўныя каляровыя плакаты некаторых прэтэндэнтаў на дэпутацкія крэслы, арганізаваныя імі разнастайныя шоу, тады як у самай “абяздоленай” часткі палітычных сапернікаў грошай ледзь хапіла на ўбогія чорна-белыя лістоўкі.

Акрамя таго, зноў засмуціла даверлівасць многіх нашых грамадзян, на якой выгадна “згулялі” кандыдаты папулісцкага кшталту. Сапраўды, іншы раз чытаеш праграму і здаецца: вось гэты сапраўды горы можа звярнуць! А як капнеш трохі глыбей — пустабрэхства дый толькі. Так і згадваецца хрэстаматыйны Манілаў...

Канешне, сустракаюцца даволі прывабныя праекты, скіраваныя на павышэнне ўзроўню нашага матэрыяльнага і духоўнага дабрабыту. Але можна з упэўненасцю казаць, што нават пры найлепшым збегу абставін і паловы гэтага зроблена не будзе. Таму што на ажыццяўленне такіх глабальных задум патрэбны шалёныя грошы, якіх у дзяржаве няма і ў бліжэйшай перспектыве не прадбачыцца. Згадваецца ўрывак з праграмы аднаго кандыдата, які абяцаў перанесці стары мінскі аэрапорт за межы горада. Справа, бясспрэчна, добрая, бо здароўе людзей і экалагічная чысціня даражэй за ведамасныя інтарэсы. Але ж гэта вам не камерцыйны кіёск на другі бок вуліцы перацягнуць...

Насцярожвае таксама і своеасаблівая кваліфікацыя або занадта вузкая спецыялізацыя большасці нашых кандыдатаў у дэпутаты. Вядома ж, усе прафесіі ў нас, як кажуць, паважаныя. Але многія з іх, згадзіцеся, даволі далёкія ад нюансаў заканадаўчай творчасці, якой найперш і павінен займацца Вярхоўны Савет. Натуральна, узнікае пытанне: што гэтыя людзі будуць рабіць у парламенце, калі ім давядзецца вырашаць праблемы, якія, мякка кажучы, не надта ім знаёмыя? Наўздагад націскаць пімпачку або ісці на чарговы перакур?..

Але гэта яшчэ што ў параўнанні з праграмамі некаторых кандыдатаў, а найчасцей кандыдатак, дзе ўвогуле нічога не абяцаецца! Вось прагаласуйце за мяне, а там разбяромся, што рабіць трэба. Прычым гэтае “разбяромся” гучыць даволі грозна — маўляў, ведайце, жанчыны ўсё роўна свайго даб'юцца. Барані Божа, я ніколі не была супраць удзелу прыгожай паловы чалавецтва ў палітыцы, аднак эмансіпацыя ў Беларусі, калі браць перадвыбарную кампанію, выглядае іншым разам проста анекдатычна... Здаецца, некаторым нашым фемінам лепей было б не гуляць у палітыку, а перш-наперш навесці парадак ва ўласнай хаце. Урэшце, я не ўпэўнена, што здолею іх пераканаць. А вось у нас, выбаршчыкаў, відаць, ёсць сур'ёзныя падставы задумацца, за каго ўсё ж такі аддаць галасы ў другім туры.

**Святлана ГАЛОЎКІНА, выбаршчыца.**

*г.Мінск.*

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

### Аб прысваенні В.А.Фадзееву ганаровага звання “Заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь”

За значны асабісты ўклад у стварэнне заканадаўчай базы рэспублікі прысвоіць намесніку старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Фадзееву Валерыю Аляксеевічу ганаровае званне “Заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь”.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

19 мая 1995 г.

г.Мінск.

№ 197

## В Москве создана партия сторонников снижения налогов

***Учредительный съезд партии сторонников снижения налогов прошел в апреле этого года, а теперь члены партии планируют провести II съезд, посвященный участию в предстоящих выборах в правительственные органы власти и формированию списков для выборов. Члены партии уже открыли 50 региональных отделений и планируют получить около 5 процентов голосов.***

По словам Дмитрия Борисовича Волосюка, члена Политсовета партии сторонников снижения налогов, главная задача программы партии состоит в контроле за функционированием налогового законодательства. В перспективе планируется сокращение федеральных налогов (кроме налога на продажу) и изменение структуры региональных и местных налогов.

**Ольга ТАРАСЕВИЧ.**

Тревожно

## Большевик, Замосточье... Где еще отравлена вода?

**Виктор ЧЕРНУШЕНКО**

***Очередной звонок из Замосточья, центральной усадьбы совхоза “Минский тепличный комбинат”. Иван Шпаковский, житель этой деревни, был крайне встревожен:***

— У нас невозможно пить воду. Отвратительно пахнет ядохимикатами... Что, будем ждать, пока начнется эпидемия?..

Еще свежи в памяти события в поселке Большевик Минского района, когда около сотни человек, включая детей, получили острое кишечное отравление от употребления питьевой воды. Сказались соседство Минской птицефабрики, низкая технология эксплуатации водопровода и, безусловно, преступная халатность руководства совхоза “Большевик”, птицефабрики. Сейчас это происшествие разбирает прокуратура.

Связываюсь с заместителем главврача санитарно-эпидемиологической станции Минского района Анатолием Томашевичем:

— В Замосточье действительно были проблемы... Это связано с хищением ядохимикатов (ворам понадобилась тара), которые проникли в грунтовые воды. Мы постоянно брали анализы воды. Обнаружили в ней содержание всего лишь одного ядохимиката, да и то в мизерном количестве. В целом качество воды не имеет отклонений от нормы. На первых порах рекомендовали хлорировать воду. Как говорится, за неимением лучшей...

— Значит, и скважины не в порядке?

— Да, есть такое... Надо за ними постоянно следить, иметь резервные.

В пристоличном районе вопрос качества воды стоит очень остро. Живем в ожидании аврала. Расплачиваемся здоровьем людей. Неужели не научены, не можем упредить беду?





АДГУКНІЦЕСЯ!

## Дзеля царквы ў Бараўлянах

На нашу думку, памыляюцца тыя, хто лічыць, што ў беларускай сталіцы і яе наваколлях зараз ужо дастаткова праваслаўных храмаў. Паспрабуйце трапіць на святочнае набажэнства ў Свята-Духаў сабор! І што казаць пра Мінск, калі ў блізкім Астрашыцкім Гарадку на свята Вадохрышча ў невялічкую царкву сёлета набілася больш за тысячу вернікаў... Аб якім духоўным настроі можна гаварыць, калі ў час набажэнства вернік вымушаны перш за ўсё турбавацца, каб каго не штурхнуць?

Наспела патрэба ў пабудове ўласнай царквы і ў прыгарадным пасёлку Лясным, насельніцтва якога складае амаль 10 тысяч. Таму ў студзені мінулага года вернікі з Ляснога і вёскі Бараўляны правялі сход і стварылі праваслаўную супольку.

Своеасаблівасці нашых ваколіц такія, што побач знаходзяцца 5 устаноў Міністэрства аховы здароўя. У тым ліку — вядомы шпіталь ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, Інстытут анкалогіі. На сродкі дабрачыннага фонду з Германіі пабудавана вёсачка для дзяцей-сірот. Важнай мы лічым неабходнасць рэлігійна-маральнага выхавання дзяцей, распаўсюджвання хрысціянскіх ведаў сярод дарослых.

“Царкву трэба спачатку пабудаваць у сваіх сэрцах”, — так сказаў на першай сустрэчы айцец Андрэй, які прызначаны нам мітрапалітам Філарэтам. І мы ўжо адчуваем разуменне з боку ўстаноў і арганізацый. Дзякуючы дапамозе прафкама Інстытута анкалогіі выдзелена памяшканне ў доме N 17 у пасёлку Лясным. Заўсёды згодзен дапамагчы нам дырэктар вучгаса імя Фрунзе В.М.Елісееў.

Пасля ахвяраванняў грашовых сродкаў мясцовымі жыхарамі мы ўжо маем архітэктурны праект царквы, якая будзе мець назву Свята-Троіцкая. Вялікае дзякуй усім людзям! Але гэты ўклад у справу пабудовы — толькі пачатак, бо ў сучасны момант патрабуюцца многія мільёны рублёў.

Менавіта таму мы хочам са старонак “Народнай газеты” звярнуцца да кіраўнікоў фірм і арганізацый, да грамадзян краіны (а шмат людзей з пэўных акалічнасцей проста вымушаны наведваць Бараўляны) з просьбай аказаць дапамогу па фінансаванню праекта прывязкі і пачатку будаўніцтва Свята-Троіцкай царквы.

Прыходскі савет праваслаўнай суполкі вёскі Бараўляны мае разліковы рахунак N 700 005, код 776 ва Усходнім аддзяленні Белбізнесбанка. Тэлефон для папярэдніх кантактаў 69-61-71.

Хочацца верыць, што з цягам часу Бараўляны будуць вядомыя не толькі Інстытутам анкалогіі і катэджамі, але і сваім прыгожым храмам Святой Тройцы.

**Ад імя прыходскага савета — жыхары пасёлка Лясны Г.МАРОЗ, Г.ГАЦКЕВІЧ, А.ЦІМАШКОЎ, В.РУСАКОВІЧ і іншыя.**

